# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 14 (2260) 2 красавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

## 74-я ГАДАВІНА БНР



— Можа, яшчэ некалькі гадоў назад, нават год назад, не ўсе спадзяваліся, што мы збяромся ў гэтай зале без прынукі і без страху. Былі людзі, якія спадзяваліся і верылі ў гэта, і наша вера сёння ажыццяўляецца,— сказаў Зянон Пазняк, прамаўляючы да паўнюткай залы на вечарыне, прысвечанай 74-й гадавіне з дня абвяшчэння БНР. Адбылася яна 25 сакавіка ў Доме літаратара ў Мінску. Сапраўды, без прынукі прыйшлі сюды тыя, каму дарагая свая гісторыя і ідэалы БНР. Сапраўды, без страху, бо дзе і калі яшчэ можна было пачуць такія смелыя і шчырыя словы аб нацыянальнай годнасці беларусаў, дзе і калі ў абсягах рэспублікі гучалі «О, Беларусь, мая шыпшына», «Магутны Божа», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Пагоня» ды іншыя песні, што будзяць дух нацыі.

Васіль Быкаў нагадаў тых, хто застаўся ў нашай гісторыі як апосталы суверэннасці Беларусі — браты Луцкевічы і Аркадзь Смоліч, Алесь Гарун і Вацлаў Ластоўскі, Язэп Варонка, Кастусь Езавітаў, Васіль Захарка, Пётр Крэчэўскі, Язэп Лёсік...

— Ушануйма ж іх і пакланімся іх памяці,— заклікаў пісьменнік.

І зала ўстала і застыла ў цішыні.

Былі іншыя выступленні. Былі розныя думкі. Было шмат эмоцый, на якія імгненна адгукалася зала.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ І ЭКАЛОГІЯ

# У ЧЫМ НАША ВЫРАТАВАННЕ?

Няцяжка заўважыць, што многанацыянальнае чалавецтва знаходзіцца ў залежнасці ад геаграфічнага асяроддзя. Кожная мясціна Зямлі мае сваю энергетыку, сваю біёту (гэта значыць, пэўнае спалучэнне арганізмаў фауны і флоры), якія і абумоўліваюць адметнасць той ці іншай супольнасці людзей на адпаведнай тэрыторыі. Прырода ўплывае на фізіялогію, душу, менталітэт.

Беларусы — пераважна невысокага росту, рамантычныя і ўзнёслыя, што ідзе ад не дужа вялікай шчодрасці нашай зямлі, але прыгажосці, мяккасці і таямнічасці яе лясных і рачных краявідаў. Жыццё сярод пушчаў і балот патрабавала цярплівасці і цягавітасці. Беларусы заўсёды аддана працавалі, урасталі ў зямлю, жылі з ёй у згодзе і марылі аб вечным. Можа таму яны такія стрыманыя і зусім не скапныя да ўлады.

Адметнасць геаграфічнага асяроддзя Беларусі адбіваецца на прадстаўніках любой нацыі. Вядомы гісторык з Ізраіля беларускага паходжання М. Агурскі лічыў, што «беларускія яўрэі па сваёй ментальнасці, характары значна адрозніваюцца ад яўрэяў украінскіх і польскіх і адначасова шмат у чым блізкія да беларусаў» (ЛІМ, 1991, 18 кастрычніка). У сваю чаргу, і беларусы, калі трапляюць на тэрыторыі іншых нацый (вучоба, адходніцтва, міграцыя), набываюць іх уласцівасці. Адзіная зямля робіць адзінымі і яе жыхароў. На іх уплывае агульная біёта. Нацыянальная разнастайнасць на энергетычна адзінай тэрыторыі становіцца ў сучасных варунках дынамічнага жыцця дастаткова ўмоўнай. І ў гэтым сэнсе ёсць падставы гаварыць аб этнасе Беларусі як паняцці больш шырокім за нацыю. Але ў кожнай энергетычна адзінай тэрыторыі павінен быць свой гаспадар. Гістарычна — гэта народ, нацыя. Прырода стварыла нацыі. І ці не таму не ўсе могуць жыць удалечыні ад роднага кута, як не ўсе расліны і жывёліны пладаносяць і размнажаюцца на чужбіне. Выключаныя са звыклай біёты (клімата), людзі хварэюць, калі не фізічна, дык духоўна.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

# ДАВЕСЦІ ДА РУК ПАЦЫЕНТАЎ

Ізноў здарылася нагода згадаць аб дабрачыннай дзейнасці нашага суайчынніка з Германіі Міхаіла Мельніка. З дапамогай дырэктара хрысціянскай місіі «Біблія для свету» Альфрэда Ленкайта ён сабраў і перадаў таварыству «Радзіма» чарговую партыю ахвяраванняў, лекаў вагой амаль 12 тон і коштам каля 250 тысяч заходнегерманскіх марак.

Атрымлівае таварыства гуманітарную дапамогу дзеля патрэб пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС і з іншых куткоў свету. Ды і не толькі яно, у Беларусі сёння налічваецца звыш 20 арганізацый, якія ставяць перад сабой тыя ж высакародныя мэты. Аднак і ў гэтай, здавалася б, святой справе нас не мінула пошасць, якая ахапіла людзей, свабодных ад сумлення: уварваць усё, што трапляе пад руку. На практыцы выяўляецца, што нярэдка замежная помач не даходзіць да пацярпеўшых, асядае на чорным рынку, у камерцыйных крамах і г. д., дзейсны кантроль за яе скарыстаннем адсутнічае. А якім чынам таварыства «Радзіма» гарантуе дастаўку гэтай, нядаўна атрыманай партыі дапамогі да дарослага пацыента ці хворага на лейкоз дзіцяці?

— Мы фізічна не можам прасачыць, пракантраляваць увесь шлях дарункаў ад замежнага донара да беларускага індывідуальнага спажыўца, будзе гэта хворы ў бальніцы ці выхаванец дзіцячага дома, — тлумачыў мне першы намеснік старшыні праўлення таварыства «Радзіма» М. Васілёнак. — Але мы гарантуем непасрэднае давядзенне іх да той ці іншай медыцынскай установы. Вось, напрыклад, што тычыць партыі медыцынскіх прэпаратаў, сабранай М. Мельнікам. Гэты груз праходзіць праз тамажню, і яна рыхтуе ўсе першапачатковыя дакументы, дзе фіксуе колькасць пакетаў ці скрынак, іхнюю вагу. Атрымаўшы іх, мы пасля кансультацыі з Чырвоным Крыжам, Міністэрствам аховы здароўя і Галоўным аптэчным упраўленнем вызначаем неабходныя адрасы для накіравання, г. зн. каму больш за іншых гэтыя лякарствы патрэбны. Выклікаем кіраўнікоў ці галоўных спецыялістаў гэтых устаноў і разам з імі падпісваем акт аб перадачы ахвяраванняў, дзе ўказваем назву ўстановы, прозвішчы тых, каму перадаём, і колькасць медпрэпаратаў. Раней мы гэтую працэдуру рабілі з удзелам розных прамежкавых, адміністрацыйных структур: гарадскіх, ра-

(Заканчэнне на 3-й стар.).




Падпалкоўнік І. КОЗЫРАЎ (першы злева) прымае дабрачынны груз, ахвяраваны суайчыннікамі з Германіі.

Фота В. СТАВЕРА.

МІТЫНГ САЛДАЦКІХ МАЦІ



**На плошчы Незалежнасці ў Мінску адбыўся мітынг салдацкіх маці. Перад Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь сабраліся бацькі, дзеці якіх не вярнуліся са службы ў арміі — самыя нешчаслівыя з жывых. Бо няма большага гора, як страціць свайго сына, а самому жыць і пакутаваць.**

**На мітынгу чуліся патрабаванні сацыяльнай абароны дзяцей, жонак, бацькоў салдат, якія не вярнуліся з арміі, а таксама тых, хто там сёння служыць. Гучалі патрабаванні аб пераводзе арміі на прафесійную аснову. Была падрыхтавана і накіравана петыцыя з гэтымі патрабаваннямі ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

СВЕДЧЫЦЬ СТАТЫСТЫКА

## БАГАЧ СЯРОД ЖАБРАКОЎ

По ўзроўню прадукцыйнасці працы Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў лідэрах сярод краін — членаў СНД. Гадавая выпрацоўка ўмоўна-чыстай прадукцыі на аднаго занятага складае 15,45 тысячы долараў ЗША, што раўняецца 41 працэнту узроўню прадукцыйнасці працы Германіі. Такія даныя прыводзяць Інстытут даследаванняў арганізаваных рынкаў і Інстытут эканомікі Акадэміі навук Беларусі ў кароткім аглядзе ходу рыначнай рэформы ў рэспубліцы, абнародаваным на сустрэчы фінансавых і біржавых дзеячаў, кіраўнікоў і ўладальнікаў кампаній і фірм дзяржаў СНД.

Аднак, адзначаюць вучоныя, з-за разрыву гаспадарчых сувязей, парушэння абавязацельстваў па пастаўках прадукцыі з іншых рэгіёнаў за два месяцы гэтага года выпуск прамысловай прадукцыі скараціўся ў сярэднім на 12,5 працэнта, на прадпрыемствах абароннага комплексу гэта лічба складае 30 працэнтаў, вытворчасць мяса зменшана на 5 працэнтаў, а ў вытворчасці малака мы недабралі пятую частку прадукцыі. У выніку атрыманы нацыянальны даход зменшыўся на 15 працэнтаў.

Спасылаючыся на даныя экспертызы «Дойчэ банка», даследчыкі сцвярджаюць, што па ўзроўню развіцця прамысловасці Беларусь уступае ў СНД толькі адной дзяржаве — Украіне. Разам з тым забяспечанасць сыравінай і гатоўнасць насельніцтва да рыначнай эканомікі ацэньваюцца як нізкія. Сярод раёнаў з адносна лепшым кліматам для прадпрымальніцтва называюцца Гомель, Брэст і Брэсцкая вобласць, а таксама Маладзечна. Аднак звязваюць гэта, у першую чаргу, з прыхільнасцю да рыначных рэформ мясцовых улад.

ПРАБЛЕМА ГРАНІЦ

## ЯК БУДЗЕМ ДЗЯЛІЦЬ?

Дзяржкамітэт геадэзіі Беларусі па дамоўленасці з Літвой і Латвіяй займаецца складаннем карты межаў, якая дапаможа вызначыць, дзе ўкопваць пагранічныя слупы, заявіў яго Старшыня Георгій Таразевіч. Па словах Таразевіча, «поўнасцю гэта праблема, відаць, будзе вырашана ў гэтым годзе». Аднак старшыня Дзяржкамітэта лічыць, што парламенты рэспублік павінны ў бліжэйшы час прыняць палітычнае рашэнне: па якому прынцыпу праводзіць падзел тэрыторый — па існуючых раней юрыдычных актах ці па фактычнаму землекарыстанню. У Беларусі з Літвой на гэты конт пазіцыі разыходзяцца. Літва настойвае на падзеле па землекарыстанню. Беларусь жа, наадварот, за ўстанаўленне межаў згодна з падпісанымі міністрамі замежных спраў у 1940 годзе дакументамі.

На думку старшыні Дзяржкамітэта, калі ў бліжэйшы час парламенты рэспублік не прымуць палітычнага рашэння ў адносінах сваіх межаў, то «справа можа прыняць небяспечны характар». У якасці прыкладу Г. Таразевіч прывёў пагранічны канфлікт паміж Кіргізіяй і Таджыкістанам.

БЕЛАРУСЬ — ЗША

## ВІЗІТ БАНКІРАЎ

«Мы будзем рабіць ўсё для таго, каб зблізіць нашы народы, памагчы Беларусі ў адстойванні свайго суверэнітэту, далейшага развіцця эканомікі, — заявіў на сустрэчы з прадстаўнікамі дзелавых колаў і журналістаў віцэ-прэзідэнт «Чэйз Манхэтэн бэнк» Джон Мінеман. — Візіт групы банкіраў з ЗША надасць новы імпульс супрацоўніцтву паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі Амерыкі».

Сустрэча была наладжана пасольствам ЗША ў Мінску. Прысутных вітаў часовы паверраны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвід Суорц, які выказаў надзею на развіццё ўсебаковага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі.

А прадстаўнікі «Чэйз Манхэтэн бэнк», «Морган Гаранты», «Саламон Бразэрс», «Мэрыл Лінч» і іншых наведалі Беларусь, каб прыгледзецца, ці варта ўкладваць капітал у эканоміку рэспублікі.

Адбылася сустрэча банкіраў са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам, плённыя кантакты і перагаворы з прадстаўнікамі дзелавых колаў рэспублікі, адбыўся абмен думкамі з вядучымі спецыялістамі буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі.

*«Большасць нашых сённяшніх складанасцей жыцця мы звязваем нібыта з тым, што развалійся Савецкі Саюз. А строга кажучы, гэта не так, дакладней, не толькі таму... Эканоміка былога СССР працавала ў стане найвялікшай напружанасці. Процьма размеркавальшчыкаў займалася стварэннем вельмі нелагічных эканамічных структур. Яны працавалі і функцыяніравалі адміністрацыйна-камандным метадамі, і было зразумела, што такая сістэма развівацца, функцыяніраваць і выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю не можа. Трэба было мяняць падыходы... І гэта мы пачалі рабіць.*

*Цяпер жа, калі што-небудзь стопарыцца, кажуць: адбыліся разрывы сувязей. Не, іх ніхто не рваў. Няма цяпер ні забарон, ні квот... Адбываецца пераход на новыя асновы. Не трэба блытаць прычыны. І нявaрта чакаць, што нарада СНД дасць вынікі для эканомікі. Мы павінны закладваць прававыя асновы ўзаемадзеяння дзяржаў. І гэта, прынамсі, робіцца. Метадамі просьбаў, націскаў тут не абыдзешся. Пачынае спрацоўваць рынак. А рыначныя адносіны трэба ўводзіць плаўна, паэтапна. Чакаць, што прыйдзе ўсё само па сабе, нельга. Усё трэба рабіць памяркоўна. І вынікі будуць. Так, вырашана ўжо пытанне аб чыгунцы — пытанне вострае, неадназначнае. Я яшчэ раз паўтараю: СНД патрэбна, яна будзе жыць!»*

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ, Старшыня Вярхоўнага Савета РБ.*

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ

**У павільёне Гандлёва-прамысловай палаты Рэспублікі Беларусь прайшла міжнародная выстаўка абсталявання для ўпакоўкі прадуктаў — сыпкіх, цвёрдых, вадкіх, выробленага прадпрыемствамі Італіі, Германіі і іншых краін. Акрамя гэтага дзелавым людзям нашай краіны польскія фірмы «АС» і «Мартэкс» прапаноўвалі для набыцця цукар, алей, цукеркі і іншыя тавары, прычым, не толькі за валюту, але і за рублі.**



**НА ЗДЫМКУ: экспанаты фірмы «Мартэкс» прадстаўляе наведвальнікам яе дырэктар Здзіслаў ВОЗЬНЯК.**

АКТ 25 САКАВІКА

# ШТО Ў ПАМЯЦІ НАШАЙ...

Балюча закранулі мяне словы юнака-студэнта, які, выступаючы на вечарыне ў Доме літаратара, прысвечанай 74-й гадавіне БНР, кінуў у залу напоўненыя вялікай сілы зарадам грамадзянскасці словы: «Гэта ж так проста — жыць на беларускай зямлі і пачувацца беларусам». Ды, відаць, нам далёка яшчэ да натуральнага для кожнага народа стану: пачуваць сябе тым, кім ты ёсць.

Але нам нашага, відаць, не трэба, бо мы не ўмеем песціць і шанаваць ні сваіх традыцый, ні сваёй гісторыі. Пра гэта лішні раз нагадалі чарговыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Я не цешыў сябе думкай, што ўсе сто працэнтаў беларусаў на Бацькаўшчыне прыхільнікі ідэі БНР, — ёсць нямала, а можа і большасць тых, каму, пэўна, дарагая БССР. Ды ўсё ж, прачытаўшы надоечы зварот Выканкома Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады вывесіць 25 сакавіка бел-чырвона-белыя сцягі, спадзяваўся, што ўбачу іх на чыім-небудзь балконе, прыватным доме. Колькі мне ў той дзень давялося хадзіць і ездзіць па горадзе, усё прыглядаўся: а раптам... Не, не ўбачыў нідзе.

Зноў перачытаў радкі звароту БСДГ: «Няхай наш сцяг пасведчыць: мы памятаем пра Акт 25 сакавіка 1918 года, мы помнім аб змаганнях за незалежнасць і дэмакратыю». Нічога мы не помнім і не хочам помніць.

І тут, на вечарыне, я пачуў са сцэны тое, ад чаго можна здранцвець. Паводле апытання, праведзенага напярэдадні сярод розных узроставых і сацыяльных груп насельніцтва, на пытанне: «Ці ведаеце вы, што ў Мінску 25 сакавіка 1918 года была абвешчана БНР?» «так» адказалі 24 працэнты апытаных, «не»— 76 працэнтаў. На другое пытанне: «Ваша стаўленне да гэтай даты?» толькі 18 працэнтаў адказалі, што лічаць гэты дзень вялікім святам. Што гэта свята патрэбнае, але пра яго не ведаюць, лічаць 37 працэнтаў апытаных.

Сцішым свае эмоцыі, возьмем сябе ў рукі і зробім просты і лагічны, здавалася б, высноў: што дзіўнага, калі ў нашай свядомасці закладзена адно савецкае, а таго, якое мы доўгія гады вызначалі як буржуазна-нацыяналістычнае, нават прафесійныя гісторыкі добра не ведаюць. Аказваецца, мы ні таго, ні другога не ведаем. Тое ж сацыялагічнае апытанне сведчыць: толькі 22 працэнты назвалі дату ўтварэння БССР. Астатнія далі няслушныя адказы або зусім не ведалі даты.

Як проста, здавалася б, пачувацца беларусам і як цяжка ім быць!

А што дзіўнага? Дата 25 сакавіка 1918 года не дазвалялася дагэтуль нідзе, была пад забаронай. БНР у савецкай гісторыі для шырокіх мас не існавала. Але ж і дата ўтварэння БССР 1 студзеня 1919 года згадвалася толькі па вельмі круглых юбілеях. Наша прэса і прапаганда кожны год 1 студзеня нагадвалі пра пераможную рэвалюцыю на Кубе. Пра гадавіну ж БССР часта пісаць лічылася дурной прыкметай таго ж нацыяналізму. Навошта выторквацца са сваім, вузканацыянальным, калі ў нас ёсць агульнасавецкае. Мы ж інтэрнацыяналісты, так што на сваё можна і забыцца...

І забыліся, выракаючыся свайго. Грэх бяспамяцтва, за які мы нясём кару сёння, учынілі яшчэ ранейшыя пакаленні беларусаў. І вельмі разумна пра гэта сказаў на той вечарыне Адам Мальдзіс: «Сумна, што так многа людзей не ведаюць пра тое, што 74 гады таму назад у Мінску была абвешчана БНР. Сёння мне становіцца сумна ад думкі, што Беларусь пакутуе за грахі не толькі чужыя, але і свае. Не за грахі тых, хто араў і сеяў, хто працаваў, а за грахі тых, хто яшчэ ў XVI—XVIII стагоддзях бег за польскімі прывілеямі; за грахі тых, хто ў 1793 годзе на чале з мінскім саноўнікам Камаром паехаў у Санкт-Пецярбург і каго за здраду Кацярына II ласкава дапусціла да сябе... Ну, а потым ужо за грузінскім каньяком ці «сталічнай» здраджвалі іншыя...»

Здавалася б, так проста і так натуральна пачувацца на сваёй зямлі беларусам. Але ў нас чамусьці так не атрымліваецца. Калі мы, як сказаў Зянон Пазняк, можам сабрацца і адзначыць гадавіну БНР без страху, то што перашкаджала зрабіць гэта не камерна, не ў зале на пару соцень месцаў, дзе сабралася вузкае кола інтэлігентаў, а з размахам, які дазваляе час і палітычныя ўмовы.

Чаму ў Вільні можна было наладзіць Дні беларускай культуры, прысвечаныя 74-й гадавіне БНР, і кінуць туды моцныя культурныя сілы, а ў Мінску нават не вывесіць палотнішчаў над праспектам Скарыны? Ці мы гэтым хочам на злосць Ландсбергісу нагадаць, што маем намер некалі змяніць нашу сталіцу? Ці робім гэта напаказ для іншых, а потым клянём свой народ у адсутнасці пашаны да сваёй гісторыі?

Дні культуры ў Літве — гэта фактычна толькі фон, на якім адбывалася галоўная падзея, да якой яны прымеркаваны — Акт 25 сакавіка. Гісторыя БНР тварылася ў Мінску, але сёння яе ўгодкі шырока адзначаюцца на чужыне — у Літве. Недарэчна і смешна. Тым больш, што самая высокая асоба дзяржавы — Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч аздабляе гэта свята сваёй афіцыйнай прысутнасцю ў Вільні, а ў Мінску ў гэты час абсалютная цішыня, звычайны шэры дзень.

Дзіўным было пачуць у гэты дзень у ранішняй інфармацыйнай праграме «Радыёфакт» толькі віншаванне суайчыннікам з Днём 25 сакавіка ад фірмы «Dainova». Яшчэ больш дзіўным было, што на сесіі Вярхоўнага Савета РБ ніхто не згадаў аб гэтай даце ні слова. Хай 25 сакавіка не прызнана нашым парламентам як дзяржаўнае свята, але ж гэта факт нашай гісторыі — дзень нараджэння беларускай дзяржаўнасці. А дзень нараджэння бывае толькі адзін. Законны гэта плод ці не, але ж з гісторыі яго не выкрасліш.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# У ЧЫМ НАША ВЫРАТАВАННЕ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Парушэнне біёты калечыць здароўе нацыі. Кожны загублены від флоры ці фауны збядняе чалавечую духоўнасць, робіць людзей больш жорсткімі і абыякавымі да сваёй айчыны, набліжае іх да нацыянальнага нігілізму. Дэнацыяналізацыя беларусаў у царскай і савецкай Расіі ішла поруч з вынішчэннем лясоў і асушэннем балот.

Наступ на нашу прыроду распачаўся недзе з 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі праз беларускія землі праляглі расійскія чыгункі. З дапамогай іх царскі ўрад утрымліваў у складзе імперыі Беларусь і рабаваў яе прыродныя багацці. З 1883 па 1903 год плошча лясоў тут паменшылася прыкладна на 30 працэнтаў. Мялелі рэкі, змяншаліся папуляцыі рыб і звяроў. У канцы XIX стагоддзя рускі генерал Жылінскі паказаў прыклад асушэння палескіх балот. Да пачатку XX стагоддзя індустрыялізацыя выявіла праблему экалогіі гарадоў, якія поўніліся смуродам ад паравых і дызельных рухавікоў і адкідамі стоўпленых гараджан. Але нішто так не знявечыла нашу прыроду, як мілітарызацыя, якая выбухнула ў 30-я гады. Галоўнымі ініцыятарамі яе выступілі фашысцкая Германія і камуністычная Расія. Прыродныя багацці пачалі выкарыстоўвацца не дзеля неабходных патрэб чалавечага быцця, а ў мэтах захопу чужых тэрыторый, заняволення суседніх народаў.

Раней людзі вельмі адказна ставіліся да свайго жыццёвага асяроддзя. Калі ў пачатку XX стагоддзя на адной з цэнтральных вуліц Менска з'явіўся чадлівы дызель для кінематографа, дык гэта выклікала ўсеагульны пратэст. Спрацоўвалі рэлігійныя ўяўленні аб боскім паходжанні свету, які патрэбна зберагаць. Першымі эколагамі былі святары. Захоўвалася разумная мера таго, што можна ўзяць ад прыроды, як захоўваецца мера ў ядзе маленькімі дзецьмі. Але захворванне на імперскія амбіцыі пазбавіла людзей розуму. Яны сталі перабіраць сваю норму — і прырода помсціць: губляе ўласцівасць самаўзнаўлення.

Жывая прырода нараджае і сілкуе нацыі, мёртвая — губіць, губіць усё. На ёй ужо ніхто не ўваскрэсне. Чарнобыль наблізіў беларусаў да калапскага стану, а прыроду Беларусі — да поўнага амярцвення. Разбурэнне прыроды і нацыі ідзе з паскарэннем, падганяючы адзін аднаго. І трэба шукаць выйсце з зачараванага кола.

Можна назваць шэраг сродкаў выратавання — безадходная вытворчасць, прыватная ўласнасць на зямлю, дэмілітарызацыя, вера ў Бога. Але ўсе яны павіснуць у паветры, калі не адродзіцца нацыянальная самасвядомасць беларусаў. Толькі яны ў стане навесці парадак на сваёй зямлі, як гэта робіць дбайны гаспадар на сваім надзеле. Хворая нацыя гэтага не адолее. Здаровая ж дзейнічае па прыкладу біёты і не прыстасоўваецца да змен, а імкнецца стабілізаваць сваё жыццёвае асяроддзе, гэта значыць, узнаўляе яго.

Кожны чалавек усведамляе сваю прыналежнасць да адпаведнага полу, сям'і, нацыі. Гэта — законы жыцця. І калі беларус адносіць сябе да рускага або да паляка, дык нагадвае ў нечым мужчыну, які ўсведамляе сябе жанчынай ці наадварот (ёсць такое захворванне). З разумення таго, што мы беларусы, гаспадары сваёй зямлі, і пачынаецца шлях да вырашэння экалагічных праблем. Толькі карэннае насельніцтва зацікаўлена — інстынктыўна зацікаўлена — у зберажэнні роднай прыроды, бо яму няма куды ўцякаць. Наднацыянальныя ведамствы, і найперш ваеннае, аб гэтым не паклапоцяцца. Абыякава ставяцца да біёты Беларусі і наехаўшыя да нас з Расіі інтэрнацыяналісты-апаратчыкі, а разам з імі і іх паслугачы — дэнацыяналізаваныя беларусы, людзі фактычна хворыя. Гэта яны падрапежніцку высушвалі і труцілі беларускія землі, ператваралі іх у эксперыментальны палігон для утапічнай камуністычнай ідэі. Яны пазбавілі нас пачуцця гаспадароў сваёй зямлі і яе здабыткаў. Але настаў час саступіць месца нацыянальна свядомым сілам. На карэннай нацыі ляжыць пачэсны абавязак стварыць людскія ўмовы жыцця на сваёй этнічнай тэрыторыі не толькі для сябе, але і для прадстаўнікоў усіх нацый.

Нацыянальнае адраджэнне — не «гульня ў сцяжкі», а наша выратаванне. Спадзявацца толькі на эканоміку нельга і небяспечна. Адарваная ад нацыянальнай глебы, яна прывядзе нас да другога Чарнобыля. Эканамічныя, экалагічныя і нацыянальныя пытанні — узаемазвязаны. Тыя нацыянальныя рухі, што ўзарвалі былы Саюз, — гэта не дарэмная трата часу і сіл, а пераход да аптымальных умоў для выпрацоўкі стратэгіі выжывання. І ў гэтым сэнсе экалогія павінна займацца ратаваннем не толькі раслін, жучкоў, птушак, жывёл, але і нацый — не ўвогуле чалавецтва, а нацый — неад'емнай часткі шматаблічнай прыроды. Універсальныя законы існасці аднолькава непазбежна працуюць як на ўзроўні папуляцый жамяры, так і ў чалавечым грамадстве.

Бальшавізм пакінуў народам былой імперыі цяжкую спадчыну. Межы ствараемых суверэнных рэспублік сканаўшага Саюза не супадаюць з этнічнымі. Яны як бы спецыяльна пераблытаны. Узнаўленне гармоніі паміж прыродай і нацыяй ускладняецца. Суб'екты новай дзяржаўнасці не ў стане прыйсці да пагаднення аб узаемаабмене этнічнымі тэрыторыямі. Каб такое здарылася, патрэбен цэлы этап культурнага ўзвышэння. Выпрабаванне сілай — выключаецца. Зараз рэальна спадзявацца толькі на культурную аўтаномію народаў у складзе чужанацыянальных дзяржаў.

Але настане такі час, калі палітычныя лідэры і народы зразумеюць, што інтарэсы нацыі і экалогіі патрабуюць адмовіцца ад чужых тэрыторый. Разумныя, цывілізаваныя і этнічнасвядомыя супольнасці людзей змогуць абмежаваць дзетароднасць і сваё спажыванне да такіх памераў, што прыродзе вернецца яе ўласцівасць да самаўзнаўлення. І для выжывання чалавецтву не спатрэбіцца варочацца ў пячоры ці ствараць штучную біясферу, рэальнасць здзяйснення якой вельмі няпэўная.

**Захар ШЫБЕКА.**

*У ЗОНЕ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ*

# «ПАЛЯВАННЕ» НА «ЧЫРВОНАЙ» ЗЯМЛІ

УСЁ ГЭТА падобна на звычайнае паляванне. Толькі вядзецца яно... з верталёта. Адстрэльваюць ласёў, ваўкоў, кабаноў, казуль. Пасля аднаго-двух залпаў — прызямленне, некалькі мінут людзі праводзяць ля тушы. Калі жывёліна невялікая, яе грузяць у верталёт, у вялікіх жа асобін бяруць часткі ўнутраных органаў, астатняе звозяць у могільнік. І так па некалькі разоў на дзень.

...Адразу ж пасля чарнобыльскай катастрофы ў Інстытуце заалогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь былі сфарміраваны спецыяльныя экспедыцыйныя атрады, пасланыя ў Гомельскую вобласць і іншыя рэгіёны рэспублікі для адбору біяпроб жывёл і птушак, рэптылій і амфібій, водных беспазваночных і млекакормячых. Ужо праз некалькі тыдняў была ацэнена сітуацыя па забруджванню фауны ў межах Беларусі.

З таго часу па некалькі разоў на год выязджаюць спецатрады для вывучэння жывёльнага свету ў тыя раёны, якія на картах радыяцыйнага стану рэспублікі пазначаны чырвоным колерам. Вядуць даследаванні, аналізуюць сітуацыю, робяць прагнозы.

Дзікія жывёлы, забяспечваючы біягенны кругаварот рэчываў і выконваючы істотную асяроддзеўтвараючую ролю, з'яўляюцца важнейшымі кампанентамі прыродных экалагічных сістэм. Таму ацэнка накаплення і характару міграцыі ў іх арганізмах радыенуклідаў мае вельмі важнае значэнне для распрацоўкі рэкамендацый па зніжэнню негатыўных эфектаў радыеактыўнага забруджвання асяроддзя. Не выпадкова ў дзяржаўнай праграме рэспублікі па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на 1990—1995 гады запланавана сістэматычнае назіранне за станам водных і наземных экасістэм. Аналіз вынікаў, атрыманых рознымі даследчыкамі, сведчыць аб даволі стракатай і вялікай карціне радыеактыўнага забруджвання фауны. Значнае павелічэнне ўтрымання радыенуклідаў у органах і тканках розных груп млекакормячых адзначана не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і на вялікай адлегласці ад месца аварыі.

Нягледзячы на вялікі аб'ём даследаванняў, прамыя даныя аб уплыве радыяцыі на стан фауны пакуль нешматлікія і фрагментарныя. Але для жывой прыроды шэсць гадоў — гэта вельмі малы тэрмін, каб рабіць вывады. Неабходны яшчэ працяглы навуковы пошук, які дазволіць стварыць банк заалагічнай інфармацыі па данай праблеме.



З гэтай мэтай у трыццацікіламетровай зоне, у Палескім радыялагічным запаведніку, а таксама на шэрагу кантрольных стацыянараў у Гомельскай, Мінскай і Віцебскай абласцях арганізавана сістэматычнае назіранне за асяроддзем, у аснову якога пакладзены аэравізуальныя работы. Выкарыстанне верталёта, хаця і дарагі, але найбольш гуманны метад даследавання ў адносінах і да людзей, і да жывёл. Таму што многія вучоныя «ходзяць у зону» ўжо шэсць гадоў па некалькі разоў на год, рызыкуючы ўласным здароўем. Гуманна і ў адносінах да жывёл, таму што ў час такога палявання на працягу адной-паўтары мінут праследуецца толькі той звер, які будзе адстраляны, а папуляцыям, што знаходзяцца побач, неспакой не прычыняецца.

Магчымасцей правядзення аналагічных даследаванняў няма нідзе ў свеце. За шэсць гадоў вучоныя Інстытута заалогіі сабралі унікальны матэрыял аб паводзінах, міграцыі, выжыванні, хваробах жывёл ва ўмовах павышанага радыяцыйнага фону. Гэтыя звесткі вельмі важныя, таму што прагнозную ацэнку вынікаў дзеяння апраменьвання на людзей можна атрымаць і па розных радыяцыйных біялагічных эфектах у шэрагу груп жывёлін і, у першую чаргу, млекакормячых.

Аднак эканамічная нестабільнасць нашага грамадства не дае вучоным магчымасці ў поўнай меры весці свае неацэнныя назіранні. Вось і гэты эксперымент цяпер знаходзіцца пад пагрозай зрыву з-за немагчымасці аплаціць верталёт і купіць самае неабходнае абсталяванне і прыборы для даследаванняў.

**У. УЛАДЗІМІРАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ:** навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі Алег ПАРЭЙКА і лётчык 2-га мінскага авіяатрада Леанід ІВАНОЎ у час правядзення даследаванняў у зоне.

Фота У. ШУБЫ.

# ДАВЕСЦІ ДА РУК ПАЦЫЕНТАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ённых, абласных аддзелаў аховы здароўя і г. д. Цяпер адмовіліся ад такой методыкі, скарацілі «тэхналагічны» ланцужок да мінімуму: донар — «Радзіма» — непасрэдны адрасат. А менавіта гэтую партыю дабрачынных даткаў з Германіі мы размеркавалі сярод хірургічных і тэрапеўтычных аддзяленняў сталічных клінік і ваеннага шпіталя.

Як высветлілася з размовы, сёння займацца атрыманнем і размеркаваннем дабрачынных грузаў каштуе вялікіх намаганняў і для грамадскай арганізацыі. Такое ўражанне, што нікога, акрамя яе, гэта справа не цікавіць. Скажам, раней транспартныя праблемы па дастаўцы ахвяраванняў з ФРГ вырашаў сам спадар Мельнік са спадаром Ленкайтам. Але ж гэта нельга рабіць у кожным выпадку: вялікі расход... Таварыства звярталася да многіх арганізацый, пакуль здабыло ў «Спецтрансаўтамаза», які ветліва адгукнуўся і пайшоў насустрач, аўтафургон, за што прыйдзецца заплаціць 3 500 нямецкіх марак. Альбо іншы бок нашага стаўлення. Міхаіл Мельнік перадаў Бацькаўшчыне лекаў, прэпаратаў, абсталявання на мільёны марак. А надарылася яму ў Мінску патрэба ў набыцці аднаго халадзільніка за свае ж грошы— «Радзіма» колькі часу не можа дамовіцца з заводам, які знаходзіцца і сярод яе партнёраў, і атрымлівае тую ж дабрачынную дапамогу ад таварыства «Радзіма».

— У ваенным шпіталі ўлік і скарыстанне таго, што мы атрымліваем у якасці гуманітарнай дапамогі і якая, дарэчы, моцна нас сёння выручае, вы заўжды можаце лёгка пракантраляваць. Кожнае найменне лякарства мае сваё месца ў адпаведных дакументах, — запэўніў мяне падпалкоўнік Іван Козыраў, начальнік аптэкі акружнога шпіталя, галоўны правізар акругі.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# POSIBILIDAD DE CONTACTOS VENTAJOSOS

**Los especialistas señalan que son obvias las esperanzas exageradas que se depositan en Alemania, Francia o el Japón, mientras que salta a la vista la falta de atención hacia América Latina. Como resultado, dejamos escapar la posibilidad de contactos mutuamente ventajosos con socios de mucha perspectiva. Así opina Igor SAFONOV, doctor en Ciencias Técnicas.**

En los últimos años los principales países de América Latina superan con éxito el infantilismo económico — dice — y, a juzgar por las evaluaciones de los expertos, se encuentran más o menos en la misma fase de desarrollo que Rusia. Por supuesto, la economía de mercado en estos países, a diferencia de nosotros, existe desde hace mucho. Pero su situación también exige profundas reformas que de igual manera se están materializando en una atmósfera económico-social crítica y con un proceso de formación de la sociedad civil inconcluso.

Hay que estudiar y tomar en consideración los logros y los errores de los latinoamericanos en la privatización de la producción, la liberalización de la economía, el saneamiento de las finanzas y las búsquedas de amortiguadores sociales para el período de reformas. Además, tienen experiencias, muy útiles para nosotros, en la búsqueda de las vías para aflojar las ataduras de la deuda, modificando la propia estructura de la deuda y convirtiendo una parte de la misma en títulos de valor.

Pero más aún importan las perspectivas de cooperación constructiva entre Rusia y los países de esta región, que ayudaría a resolver muchos de nuestros problemas de la exportación y organizar la importación de mercancías en condiciones considerablemente más ventajosas que ahora, sin meternos en nuevas deudas.

En primer término, muchos países latinoamericanos podrían exportarnos artículos y alimentos que por su calidad no ceden a los productos de países altamente desarrollados, pero a menudo mucho más baratos. Por otra parte, se les podrá pagar con mercancías de reconversión y tecnologías recientes y no con los dólares que no tenemos. Tanto más que algunos Estados de América Latina (Argentina, Brasil, Chile) desarrollan enérgicamente la industria aérea y espacial, careciendo de experiencis prácticas y soluciones tecnológicas productivas. A decir verdad, lo mismo se refiere a la exportación de las mercancías de calidad insuficientemente alta para Occidente, pero bien aceptables para los consumidores de Perú o Colombia, mucho menos caprichosos.

A decir verdad, algunos politólogos americanistas miran muy escépticos a esta idea, especialmente en lo que se refiere a la penetración en los mercados norteamericanos. Los argumentos de los escépticos son bastante ponderables: al iqual que nosotros, los latinoamericanos se ahogan en el mar de la deuda externa, persiguen con el mismo ímpetu las divisas convertibles, su economía con atraso estructural se controla casi por completo por EE. UU. Además, su actitud al trabajo y la disciplina contractual es similar a la nuestra. Los japoneses que buscan activamente nuevos mercados para sus productos no manifiestan interés especial a América Latina.

Por otro lado, los economistas insisten: ¿qué perdemos si intentamos organizar el intercambio, enviando las mercancías que allá tienen más oportunidades que en los mercados de Occidente y recibiendo otras, perfectamente aceptables para nuestras condiciones? No importa si se trate de trueque y de "clearing"... Lo importante es que esta puerta existe.

Tal vez ¿valga la pena entreabrirla?

**Entrevistó**
**Alexandr TSIGANOV**

### ENTREVISTA SENSACIONAL

El general Eduard Shirkovski, presidente del KGB de Bielorrusia, concedió la sensacional entrevista al periódico "Bielorruski chas".

El general declaró que la república estaba inundada de centenares de espías de los vecinos países euroorientales, de los servicios secretos occidentales e, incluso, de las repúblicas que antes formaban la URSS. Tales espías se infiltran en la república haciéndose pasar por especialistas en armamentos o recurren a otro camuflaje. Según Shirkovski, "los ciudadanos de Bielorrusia son reclutados por espías de la manera más indignante". Algunos ciudadanos, incluso, buscan ellos mismos contactos con la CIA, siempre y cuando se les pague en dólares. Y eso que la CIA perdió gran parte del interés en el "imperio del mal" a causa del desmoronamiento de la Unión Soviética.

Hasta ahora los dirigentes de los servicios de seguridad de otros Estados independientes de la CEI nunca habían declarado algo parecido. Siguen siendo un enigma las razones de esa acrecida inmigración de espías a la tierra bielorrusa.

### PARO DE LA "BELAZ"

Paró la fábrica "BELAZ". Diez mil obreros recibieron "vacaciones" por un plazo indefinido. La hoz de la política cortó el tejido vivo de los vínculos económicos. Bobruisk dejó de suministrar neumáticos; Cheliábinsk, llantas. En resumen, 500 camiones pesados "descalzos" se cubren de nieve. Los problemas son comunes para todos. No hay recursos para el ajuste de las cuentas recíprocas. La misma "BELAZ" tiene producción terminada por un monto de 1.300 millones de rublos y una deuda que asciende a 200 millones. Con la decuplicación de los precios el comprador también se empobreció. ¿Por mucho tiempo? ¡Quién sabe! Pero es necesario pasar por ello.

Redactor de la página Kastús **SHALIASTOVICH**



*La ciudad de Minsk.* *Foto V. STAVER*

# EMIGRACION

### OCCIDENTE ESTA A PUNTO DE CERRAR SUS FRONTERAS PARA LOS REFUGIADOS

**La prensa abunda hoy en comentarios sobre las proporciones amenazantes de la emigración a los países ricos de Europa y a Norteamérica. Esto no es sorprendente, teniendo en cuenta que el número de emigrados que quieren fijar su residencia en Europa Occidental aumentó de 70 mil en 1989 a 442 mil en 1990. Y eso que la inercia psicológica y organizativa detiene aún la "explosión étnico-nuclear" en el territorio de la Unión Soviética, desintegrada y sumida en la crisis económica.**

En opinión de Dirk Van de Kaa, demógrafo holandés, "hasta dos millones de ciudadanos soviéticos están dispuestos ahora a emigrar al Oeste de Europa por razones socioeconómicas. Pronto se les sumarán unos seis millones de nuevos compatriotas". Hay que señalar que las estimaciones discrepan. Franz Löschnak, ministro de Asuntos Exteriores de Austria, considera que después de entrada en vigor la Ley de Emigración, la primera ola de emigrados podrá sacar de la ex Unión a 10—15 millones de personas, y la segunda, 8—9 millones.

¿Qué grupos de la ex sociedad soviética irán al frente de aquello que la prensa extranjera califica de futuro "ejército de invasión" a Europa y América?

Ante todo lo serán los refugiados. Tan sólo en la zona del Cáucaso fueron muertos 451 civiles y heridos 557. La guerra no declarada y carente de perspectiva que dura allí varios años, ha dejado ya un saldo de 86 militares de las tropas del Interior y policías muertos y 174 heridos, que intentaron vanamente desunir las partes beligerantes. Centenares de veces las poblaciones fueron blanco de bombardeos. El número de víctimas es casi igual a las sufridas por los norteamericanos durante la operación "Tempestad en el desierto".

Ya en septiembre de 1991 fueron registrados 301.132 refugiados armenios, 204.926 azeríes, 54.302 osetios y 9.948 turcosmesjetinos. Desde entonces estas cifras han aumentado considerablemente.

En total, el número de ciudadanos que se han visto obligados a abandonar los lugares de su residencia, sobrepasa los 700 mil. Y eso que millones de habitantes de los Estados bálticos, de Moldova y del Asia Central, donde crece, asimismo, el número de colisiones sangrientas, no se ha movido aún del sitio. No es difícil ver muchos hechos indignantes de expulsión "pacífica" abierta de las nacionalidades no autóctonas desde estas ex repúblicas soviéticas, especialmente en el contexto de la recesión de la producción y del aumento del desempleo. Esta gente preferirá emigrar a Occidente que buscar refugio en Rusia que, en su opinión, los traicionó y, siendo pobre, no podrá prestarles ayuda alguna.

Los grupos étnicos poco numerosos que viven fuera de los límites de sus respectivas repúblicas nacionales, tienen la oportunidad de obtener el status de refugiados políticos y no de "económicos", de los que Occidente podrá marginarse. Les seguirán aquellos que no tienen nada de común con ninguna parte de la ex URSS. Entre ellos hay 171 mil húngaros, un millón 126 mil polacos, y rumanos residentes fuera de los límites de Moldova.

De momento, los países europeos sólo ponen obstáculos mecánicos al torrente de emigrados.

En agosto último la policía fronteriza federal de Alemania amplió su presencia en un sector de 40 km del río al Sur de Francfort del Oder. Aumentó el número de lanchas patrulleras y aparecieron aparatos de visión nocturna.

El puesto situado en el 431 km de la frontera alemana con Polonia y Checoslovaquia recibió cinco helicópteros más: tres "Alouette" destinados a vigilar la frontera, un "Bell" y un "Puma" que dan la posibilidad de trasladar rápidamente las fuerzas. El personal del sector se incrementó en 500 policías. Durante los primeros siete meses de 1991 han detenido a 3.118 emigrados ilegales, y en las dos primeras semanas de agosto, a 808. La mayoría de los infractores son rumanos, búlgaros, búlgaros de origen turco y gitanos. De momento, el número de ciudadanos soviéticos es escaso.

Europa Occidental recrudece su legislación de inmigración. En Francia, antes de admitir a un extranjero al trabajo, el empresario debe someterlo a la prueba de habilidad. Fue implantada la responsabilidad conjunta del patrono y del obrero asalariado por el pago de diversos impuestos y descuentos para atenciones sociales. Se estipulan severos castigos por violación de la ley: confiscación de bienes y de producción hecha y el veto profesional por un plazo de cinco años. A los traficantes clandestinos de mano de obra les amenazan cinco años de prisión. Igual castigo amenaza a aquellos que ayudan a los extranjeros a entrar en forma clandestina al país y vivir en su territorio. A aquellos de los emigrados que se niegan a abandonar el país, les amenaza un castigo de seis meses a tres años de prisión.

Es fácil comprender tales acciones del Gobierno; tan sólo en Marsella con una población de 850 mil habitantes viven 80 mil árabes, 70 mil hebreos, 60 mil armenios, vietnamitas, africanos... Se enfrentan los niveles de vida, costumbres, hábitos y el estilo de vida. A menudo se manifiesta la incompatibilidad de caracteres que conduce a la enemistad con un matiz étnico.

En el transcurso del año casi se duplicó — hasta el 32 % — el número de franceses que aprueban la postura de Jean-Marie Le Pen, dirigente del "Frente Nacional" derechista, que se manifiesta bruscamente contra los inmigrantes. Le Pen basa su política sobre los llamamientos a desterrar una parte de más de cuatro millones de extranjeros residentes en Francia.

Los países occidentales no han elaborado aún una efectiva política de inmigración. Los intentos de la Comunidad Europea de regular el intenso flujo de refugiados no surten efecto. El programa elaborado el año pasado por la CE con miras a desterrar a los "boat peoples" vietnamitas se basa en el pago de subsidios en dólares a "cuantos muestren cordura". A estos efectos fueron asignados 11,5 millones de dólares hasta finales de 1991. Sin embargo, el efecto fue contrario. El número de vietnamitas llegados a Hong Kong sobrepasó los 62 mil. Al parecer, la beneficencia se convirtió en un aliciente complementario.

Las pérdidas morales y económicas que el mundo occidental sufre debido a la inmigración, demuestran que es mucho más difícil y costoso atajar estos intentos que encontar métodos y medios efectivos para mantener a los refugiados en los accesos lejanos a su casa.

La ayuda humanitaria, por ejemplo, el envío de comestibles, no resolverá el problema, máxime cuando ésta, al decir del propio B. Yeltsin, "desaparece sin dejar huella" en la etapa de su distribución. Por lo visto, es necesario elaborar un programa de concurso a la modernización de los sectores punteros que aseguren la vida del hombre a un nivel admisible, ante todo, de la agricultura, la industria manufacturera y ligera. Estos sectores son los únicos capaces de sentar las premisas para crear el mercado. De lo contrario, todos los intentos de pasar a la economía de mercado, emprendidos "desde arriba" — la convertibilidad del rublo y la asistencia financiera occidental, sin tener en cuenta las realidades de la economía monopolizada y militarizada de la URSS — se verán abortados.

**Evgueni ANDRIUSCHENKO,**
**doctor en Filosofía y Sociología**

Іван САВЕРЧАНКА

# АСТАФЕЙ ВАЛОВІЧ

## ГІСТОРЫКА-БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС



Працяг. Пачатак у № 13.

Урэшце польскія паслы і сенатары большасцю галасоў пастанавілі: прымусіць Астафея Валовіча прысягаць Кароне, а калі ён адмовіцца, то адабраць у яго маёнткі Ламазы, Кадынец і Воін.

10 сакавіка 1569 года падканцлера Вялікага Княства Астафея Валовіча паклікалі на сумеснае пасяджэнне польскага сената і пасольскай палаты, каб аб'явіць яму канчатковае рашэнне. За некалькі хвілін да запрашэння Валовіча ў залу Жыгімонт II Аўгуст аддаў распараджэнне каронному канцлеру Дэмбянскаму, каб ён папярэдзіў усіх аб неабходнасці карэктных адносінаў да вялікакняскага падканцлера, што той неадкладна і зрабіў.

Зварот Дэмбянскага да паслоў вельмі шмат гаворыць пра асобу Валовіча, таму прыгадайма кароткія вытрымкі з яго: «Шаноўныя панове паслы! — звярнуўся канцлер Дэмбянскі да прысутных.— Пан Астафей прыйшоў сюды і знаходзіцца зараз у пакоі Яго Міласці. Заклікаю вас улічваць, што ён чалавек важны і знакаміты. Ён, як бачыце, ня збег адсюль з Любліна ад справы вуніі, таму прашу, калі ён будзе пакліканы сюды, стаўцеся да яго з належнай павагаю, гаварыце ветліва і добразычліва». (Дневник... С. 175).

Пасля запрашэння Астафея Валовіча ў залу каронны канцлер паказаў прыклад, звярнуўшыся да падканцлера Княства з наступнымі словамі: «Мілы пане падканцлер Вялікага Княства Літоўскага! Яго Каралеўская Міласць па жаданні пасольскага кола і паноў-рады загадаў вам прыйсці сюды і выканаць свой абавязак. Паколькі Вы трымаеце некалькі дзяржаваў на Падляшшы—Ламазы, Кадынец і Воін, то Вам неабходна прынесці прысягу каралю і каралеўству, як тое зрабілі ўладальнікі іншых маёнткаў на Падляшшы». (Дневник... С. 176).

Разгублены і ашаломлены Астафей Валовіч моўчкі выслухаў маналог Дэмбянскага. Авалодаўшы сабою, ён усё-такі заявіў свой пратэст супроць незаконных патрабаванняў палякаў, што непрыхавана чынілі гвалт як над ягонаю асобай, так і над гонарам усяго Вялікага Княства. «Найсвятлейшы і Міласцівы гаспадар,— звярнуўся збянтэжаны Валовіч да Жыгімонта.— З маладых гадоў праз усе часы я служыў Вашае Міласці, і Вы ніколі не памыляліся, давяраючы мне адказныя справы. Я заўжды чыніў так, як належыць вернападданаму Вашае Міласці. Вы, Вашая Міласць, добра ведаеце: я ўжо аднойчы прысягаў Княству. Як жа мне цяпер другі раз прысягаць каралеўству!? Раней, чымся вымушаць мяне да гэтае прысягі, зрабіце ласку, Вашая Міласць, і давядзіце, з якой прычыны тыя дзяржавы належаць Кароне, а не Княству? Дагэтуль яны лічыліся ўласнасцю Княства, і я іх трымаў як землі, што прылягаюць да галоўнага Берасцейскага замку. Акрым таго, я застаўся тут адзін і не маю права бяз іншых, сваёй воляй, штосьці перадаваць каралеўству. Спадзяюся, Вашая Міласць, як хрысціянскі гаспадар, не прымусіць мяне да таго, што супраціўна майму сумленню». (Дневник... С. 176—177).

Выслухаўшы ўсхваляваную прамову Валовіча, кароль загадаў яму выйсці і зноў пачаў раіцца з пасольскім колам і сенатарамі. Няўмольныя польскія паслы, аднак, па-ранейшаму патрабавалі клятвы ад вялікакняскага падканцлера. Яны пераконвалі караля, што Валовіч павінен прысягаць не як жыхар Вялікага Княства, а як уладальнік маёнткаў на Падляшшы, якое перайшло пад уладу Кароны.

Урэшце Астафея Валовіча другі раз запрасілі ў залу, дзе ён атрымаў мажлівасць паўторна звярнуцца да караля і нагадаць яму, што маёнткі, з-за якіх узнікла спрэчка, ён атрымаў за вялікую пазыку грошай манарху на вайну з паўднёвымі ворагамі Кароны ды Княства. «Найсветлы і Міласцівы кароль! — гаварыў падканцлер. — Заўсёды я сцярогся таго, каб не ўступіць з Вамі ў канфлікт. І сюды я прыехаў не на суд, і таму тут мне не павінны выносіць аніякага прыгавору. Я сюды прыйшоў таму, што Вы, Вашая Міласць, памазанік Божы, загадалі мне. Выконваючы Вашую волю, я, як вернападданы, і з'явіўся сюды. І што я тут чую пра мае землі?! Яны ж былі дадзены мне Вашай Міласцю за сумленную службу, за тое, што я даў адпор ворагам Вашае Каралеўскае Міласці. Прашу Вашу Міласць, не ўступайце са мною ў суд, бо я не пакліканы сюды літарай закону. Прашу Вашу Каралеўскую Міласць, памазаніка Божага, адпусціць мяне адсюль з добрымі думкамі». (Дневник... С. 177—178).

Каб неяк зменшыць ціск з боку палякаў ды ўнікнуць прамога прымусу, Валовіч завёў размову пра даўнія добрыя адносіны паміж насельнікамі Княства і Кароны ды пачаў прасіць даць яму час на роздум: «Паколькі мне даводзіцца мець тут непамерна цяжкую справу, з якой я ніколі раней не сутыкаўся, то прашу, — звяртаўся падканцлер да палякаў,— даць мне нейкі час, каб усё ўзважыць. І не вымушайце мяне да тае прысягі, якую, на маю думку, я не павінен чыніць» (Дневник... С. 178—179).

Аднак на палякаў ня дзейнічалі ні ўгаворы Валовіча, ні яго слёзныя просьбы. Каронны канцлер урэшце даў вялікакняскаму падканцлеру канчатковы і катэгарычны адказ: «Вы чулі, міласцівы пан, волю і загад Ягонае Каралеўскае Міласці. Таму выконвайце тое, што вы абавязаны выконваць. Калі ж вы не прынесяце прысягі, як тое зрабілі іншыя, то Яго Каралеўская Міласць неадкладна забярэ тыя вашыя дзяржавы да сваіх рук і распарадзіцца імі, як палічыць патрэбным» (Дневник... С. 179). На гэтым падканцлерава размова з палякамі скончылася. На наступны дзень, 11 сакавіка 1569 года, сенат на сваім закрытым пасяджэнні настаяў на тым, каб кароль пазбавіў Валовіча Ламазоў, Кадынца і Воіна ды перадаў іх некаму іншаму.

Валовіч даведаўся пра рашэнне сената, але ўзняўся вышэй сваіх уласных матэрыяльных інтарэсаў і, не зважаючы на страты, не прысягнуў Польскаму каралеўству і не здрадзіў Вялікаму Княству. Гэты незвычайны ўчынак падканцлера абвяргае пануючы да сённяшняга дня ў гістарычнай літаратуры погляд, нібыта беларуская шляхта ў эпоху Сярэднявечча кіравалася ва ўсім адно толькі ўласнымі меркантыльнымі разлікамі. Як бачна, не заўсёды так. Паводзіны Астафея Валовіча на Люблінскім Сойме 1569 года, у трагічны для Айчыны момант,— неабвержнае сведчанне патрыятызму нашых продкаў, глыбіні нацыянальнай ідэі ў іх сэрцах.

Як паказалі наступныя падзеі, Валовіч не змірыўся з глумленнямі над сабою і здзекамі з законаў Вялікага Княства. Страціўшы надзею суняць шал палякаў, падканцлер у другой палове сакавіка 1569 года зноў пачаў рассылаць паўсюль па Валыні і Падляшшы Граматы за сваім подпісам і малой вялікакняскай пячаткаю, заклікаючы шляхту ня ехаць на Сойм і пабурыць планы ворагаў са зброяй у руках. Калі палякі дачуліся пра дзейнасць Валовіча, яны звярнуліся да Жыгімонта з просьбаю, каб ён пазбавіў падканцлера малой пячаткі ды пад пагрозаю пакарання забараніў яму распальваць сярод насельнікаў Княства нянавісць да іх (Дневник... С. 257). Але — дарэмна. Валовіч, нягледзячы на пагрозы, прадаўжаў антыпольскую агітацыю ды заклікаў шляхту да шырокага паспалітага рушання на Карону.

Аднак ці то гісторыя распарадзілася па-свойму, ці то Валовіч сам зразумеў бесперспектыўнасць ды гібельнасць на той момант вайны Княства з Польшчаю, замест вайсковых дзеянняў у красавіку 1569 года ў Любліне ўзнавіліся перамовіны аб вуніі.

Пятага красавіка 1569 года прадстаўнікоў Вялікага Княства — Астафея Валовіча, Яна Хадкевіча, Даменіка Паца, віцебскага кашталяна, Крыштафа Мікалая Радзівіла, крайчага, ды Мікалая Кішку, падчашага, — прымалі радныя паны Польскага каралеўства. Патрабаванні і прапазіцыі беларускае шляхты, падрыхтаваныя надоечы ды запісаныя ў сшытак, зачытаў Як Хадкевіч. Прадстаўнікі Вялікага Княства ў час гэтае сустрэчы патрабавалі вяртання незаконна забраных Валыні і Падляшша ды прасілі дазволу караля і вялікага князя на правядзенне павятовых соймікаў, каб мясцовая шляхта альбо абрала новых дэпутатаў на Вальны Сойм, альбо пацвердзіла паўнамоцтвы папярэдніх.

Жыгімонт II Аўгуст пайшоў насустрач беларускай дэлегацыі і дазволіў склікаць 10 траўня 1569 года павятовыя соймікі Княства з умоваю, што абраныя на іх дэпутаты 29 траўня прыедуць у Люблін для канчатковага вырашэння пытання аб дзяржаўнай вуніі.

Па правядзенні соймікаў вялікакняская дэлегацыя ў азначаны тэрмін, аднак, не з'явілася на Вальны Сойм, спазніўшыся нешта на тыдзень. Яе затрымкаю зноўку скарысталіся палякі і дамагліся ад Жыгімонта яшчэ аднаго Прывілея на далучэнне да Кароны ўсяе Кіеўшчыны, у чым, здаецца, часткова была зацікаўлена і тамашняя шляхта. Аказаць дзейснае супраціўленне Польшчы, са зброяй у руках адстаяць свае інтарэсы Вялікае Княства, знямоглае ў вайне з усходнім ворагам, на той момант было не ў стане. А пратэсты ды абурэнні ні на кога ня дзейнічалі.

Заключны раунд перамовінаў, які працягваўся з шостага па 27 чэрвеня 1569 года не зважаючы на супраціўленне Валовіча, Хадкевіча ды іншых радных паноў, скончыўся падпісаннем цяжкога і надзвычай нявыгаднага для Княства «Заключнага Акта аб вуніі».

Але ці мела Вялікае Княства ў той момант іншае выйсце? Усебаковы аналіз тагачасных палітычных і эканамічных варункаў дазваляе зрабіць выснову, што без вуніі 1569 года беларускае гаспадарства наогул магло б знікнуць з карты Эўропы, бо ня толькі маскоўцы, а і палякі гатовыя былі сілаю авалодаць ім. Таму ня маюць пад сабою аніякай глебы абвінавачванні тагачасных беларускіх палітычных і дзяржаўных дзеячаў у адступніцтве ды здрадзе інтарэсам Айчыны. Яны зрабілі ўсё, што было ў іх сілах. Адчай ды бязвыхаднасць беларускіхураднікаў, паставіўшых свае подпісы пад «Актам аб вуніі», засведчыў нават тагачасны польскі храніст, якога зусім нельга западозрыць у сімпатыях да Вялікага Княства. Вось што ён пісаў пра паводзіны і стан вялікакняскіх паслоў у тую трагічную хвіліну: «З вялікім рыданнем яны ўсталі. І нават сярод нас, палякаў, рэдка хто не плакаў альбо ня быў да глыбіні душы ўзрушаны ад жаласці, бо многія паны-рада абліваліся слязьмі» (Дневник... С. 471). Ня менш драматычную сцэну назіраў той жа храніст першага ліпеня 1569 года, калі панылы Астафей Валовіч дрыжачым голасам чытаў тэкст прысягі, а іншыя, заходзячыся ад плачу, паўтаралі яе ўслед за ім.

Некаторых ураднікаў Княства манарх сапраўды задобрываў і перад падпісаннем вуніі, і пасля. 29 чэрвеня 1569 года Астафей Валовіч таксама атрымаў Прывілей на Троцкае кашталянства. Апроч таго, за падкацлерам засталіся Ламазы, Кадынец і Воін. Створаная па загаду Жыгімонта камісія, што ўдакладняла мяжу між Берасцейшчынай і Падляшшам, уключыла іх у склад Берасцейскага староства.

Каралеўскія падачкі не суцешылі Валовіча. Ён, падобна ўсім астатнім насельнікам Княства, успрымаў вунію як страшэнную напасць, ліхасць ды катастрофу, паколькі Бацькаўшчына апынулася ў няволі, а ўсе набыткі папярэдніх пакаленняў ператвараліся ў пыл. «Заключны Акт аб вуніі» акурат прадугледжваў зліццё дзвюх дзяржаў і двух народаў у адзінае цэлае, забараняў правядзенне ў Княстве асобных Соймаў, ліквідаваў адметны вялікакняскі Статут, адмяняў звычайны парадак абрання вялікага князя, дазваляў палякам свабодна набываць землі і даставаць усякія пасады на ўсіх абшарах беларускага гаспадарства. Адным словам, «Акт аб вуніі» рыхтаваў глебу для поўнага ўваходжання Вялікага Княства ў склад Польскага каралеўства, чаго на працягу некалькіх вякоў так дабіваліся палякі.

Утварэнне на Люблінскім Сойме статутавай камісіі з мэтаю прывядзення вялікакняскага заканадаўства і ўсіх судовых ды адміністратыўных структураў у адпаведнасць з польскімі, а гэтаксама фарміраванне агульнага ўраду, сталася першымі крокамі на шляху зліквідацыі незалежнага беларускага гаспадарства.

Але мары палякаў засталіся нязздзейсненымі. Дзякуючы неймаверным намаганням і цвёрдай палітычнай лініі вышэйшых ураднікаў Княства і, найперш, Астафея Валовіча, як галоўнага праціўніка зліцця беларускае дзяржавы з Польшчаю, аніякага паяднання ў сапраўднасці не адбылося. Вялікае Княства яшчэ доўгі час захоўвала сваю незалежнасць.

## ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ АЙЧЫНЫ

У другі перыяд жыцця Вялікага Княства без гаспадара перад Астафеем Валовічам паўсталі новыя праблемы, ад вырашэння якіх залежаў ня толькі яго лёс, але й будучыня ўсяго народа. Драматычная сітуацыя вымагала ад падканцлера неймавернага напружання волі ды рашучых дзеянняў.

У канцы лета 1574 года па прапанове Валовіча ў Францыю выехала вялікакняскае пасольства, якое ўзначальваў намінат на Жамойцкае біскупства Мельхіёр Шэмет. Пасол перадаў Генрыху Анжуйскаму рашэнне паноў-рады: калі ён не з'явіцца да 12 траўня 1575 года, то Вялікае Княства абвесціць пачатак новай канвакацыі.

Генрых абяцаў хутка вярнуцца, але Валовіч ужо болей не спадзяваўся на яго і першага лістапада 1574 года на Галоўным З'ездзе Княства ў Вільні паставіў свой подпіс пад «Лістом Сената і рыцарства», у якім выказваўся намер абраць вялікім князем эрцгерцага Эрнеста, сына імператара Максімільяна. Мяркуючы па зместу гэтага «Ліста», тэкст якога са старажытнага арыгінала перадрукаваў І. Лапо ў сваім фундаментальным даследаванні «Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586): Опыт исследования политического и общественного строя» (Спб., 1901. Т. 1. С. 117—119), Астафей Валовіч і тыя 35 ураднікаў Княства, што пацвердзілі сваё рашэнне пячаткамі, звязвалі з асобаю Эрнеста вяртанне беларускаму гаспадарству Валыні, Падляшша, Кіеўшчыны ды Браслаўля, а гэта таксама — усталяванне міру між хрысціянскімі краінамі Эўропы.

У сувязі з гэтай палітычнай пераарыентацыяй Валовіча паўстаюць два вельмі важкія пытанні: чаму падканцлер кожны раз пры выбарах гаспадара аддаваў перавагу іншаземцам і што перашкаджала яму падтрымаць ідэю Пяста — гаспадара са свайго народу?

Каб спасцігнуць логіку паводзінаў падканцлера, неабходна ўлічваць своеасаблівы характар тагачасных узаемадачыненняў эўрапейскіх дзяржаў, калі найбольш трывалыя сувязі між імі ўсталёўваліся праз парадненні манархаў ці ўзвядзенні на трон прадстаўнікоў магутных дынастыяў. Па смерці Жыгімонта II Аўгуста, апошняга з Ягелонаў, Вялікае Княства якраз апынулася перад гістарычным выбарам: альбо шукаць замежнага гаспадара са знакамітай дынастыі, з усімі перавагамі і недахопамі гэтага кроку, альбо ўзвесці на прастол Пяста, што таксама мела свае плюсы і мінусы. Сярод шляхты Вялікага Княства знаходзіліся прыхільнікі як аднаго, так і другога шляхоў.

Астафей Валовіч, узважыўшы ўсе акалічнасці, выступіў у той рашаючы момант супроць ідэі Пяста. Пазіцыя падканцлера мае сваё гістарычнае апраўданне. Па-першае, абранне Пяста непазбежна прывяло б да палітычнае ізаляцыі Вялікага Княства, адмоўныя вынікі чаго выявіліся б даволі хутка.

(Працяг будзе).

*НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ*

# КВЕТКІ АЗЁРНАГА КРАЮ

Каб пагаварыць з Фёдарам Іванавічам, зусім не абавязкова ехаць да яго ў вёску Бабруйшчына на Глыбоччыне. Лёгкі на пад'ём, майстар сам ахвотна адгукаецца на розныя запрашэнні, напаткаць яго можна і на мясцовых, і на рэспубліканскіх выстаўках народнага мастацтва. Нетаропка, прыпадаючы на мыліцы, ходзіць па залах пажылы сухарлявы чалавек, пільна ўглядаючыся ў тканыя, разьбяныя, плеценыя, ганчарныя вырабы. Усё яго цікавіць, і, як кожны сапраўдны майстар, ён належна цэніць творчасць іншых. А потым можа прысесці тут жа, каля сваіх дзівосна-яркіх дываноў, і паказаць, як іх малююць. Кавалак чорнага паркалю рассцілаецца на падлозе, упэўненыя ўзмахі пэндзля кладуць чыстыя гучныя фарбы, і без ніякага папярэдняга малюнку з'яўляецца букет у вазе, гірлянды кветак па кутках, дэкаратыўная акаймоўка. І што ні дыван, то ўсё новыя і новыя варыянты.



Тым часам майстра і за язык цягнуць не трэба. Расказчык ён неблагі, ахвотна апавядае пра сваё доўгае жыццё, у якім хапала і featureрознага ліха, і шмат чаго цікавага.

— Радзіўся я ў семнаццатым годзе. Не ў Бабруйшчыне, там побач вёсачка Крывічы была. А як хата завалілася, то і купіў сабе ў Бабруйшчыне. Адзін жыву. Сын у Брэсце, то я на зіму да яго выязджаю, а вясною зноў на радзіму. Дачка ў Глыбокім жыве...

А ведаеце, хто маім вучыцелем быў? Язэп Драздовіч! Проста на вуліцы з ім пазнаёміўся. Было гэта недзе ў сярэдзіне трыццатых. Перад тым ён у гімназіі ў Вільні рабіў, а як выгналі за тое, што беларушчыну прапагандаваў, то ён і хадзіў па вёсках, карміўся тым, што дываны людзям маляваў. Вось ідзе па нашай вуліцы такі барадаты дзядзька ў капелюшы, з кіем, а я, хлапчук, якраз на вуліцы быў. Ён і пытае ў мяне: «Ці не было б тут дзе паначаваць?» Чаму ж не, кажу, і ў нас можна. Пайшлі да нас. А вечарам, як абазваўся ён, што дываны малюе, дык і пайшлі людзі з заказамі: і таму намалюй, і другому. Так і пражыў Драздовіч у нас ці не паўтара года. І ўсё дываны маляваў. А я ўсё прыглядаўся...

У сорак пятым годзе я ў канторы рабіў. Ехаў неяк у камандзіроўку, і трэба ж было на міну напароцца. Без нагі вось застаўся, інвалідам стаў... Паглядзеў — дык маляваць дываны якраз работа для мяне. То і малюю з таго часу. Праўда, зімою ў сына не надта памалюеш: кватэра гарадская, нідзе з маім прычындаллем не прыткнуцца. А як дадому прыеду, тут ужо мне прасторна і ніхто не ўказ.

Пасля ж вайны, ведама, ні фарбаў добрых, ні палатна надта не было. Саматканае браў, і то не самае лепшае. Часам прыносілі рагожкі ўсякія, у гаспадарцы непатрэбныя, а то, бывае, і цэлую машыну кусочкаў розных прывязуць. Пасшывай усё гэта, прывядзі ў боскі выгляд! Фарбы анілінавыя браў, на клеі разводзіў, кістачкі сам рабіў — ды і цяпер раблю, бо магазінныя мне не падыходзяць, то цвёрдыя, то вельмі мяккія. Дык я з конскай грывы...

Узоры папярэдне не абдумваю. Як вазьму кістачку ў руку, то і ўзор сам паяўляецца. Ці бачыў, як малююць іншыя? А я дужа і не прыглядаўся. Сам усё прыдумваю...

І ўсё ж тут варта не пагадзіцца з Фёдарам Іванавічам. Яго дываны — не толькі ўласная выдумка, яны працягваюць традыцыі малявання, яшчэ не так даўно пашыраныя ў гэтым краі. Той жа Язэп Драздовіч свае дываны маляваў па матывах мясцовых вырабаў, то ўжо хоць бы і праз яго творчасць Фёдар Іванавіч знаёмы з мясцовымі роспісамі, нават калі і сапраўды ў наваколлі не было ніводнага такога майстра. Кампазіцыя, каларыстыка, характар яго работ пры ўсёй іх адметнасці — цалкам у стылі мясцовых маляваных дываноў, гэтага цікавага віду беларускага народнага роспісу.

Маляванне насценных дэкаратыўных дываноў — адносна малады від народнай творчасці. Пашырэнне іх у традыцыйным побыце адносіцца да 20—30-х гадоў, калі ў народным мастацтве сталі забывацца многія старажытныя матывы сімвалічнага характару, саступіўшы месца яўнай дэкаратыўнасці. Адносная даступнасць фарбаў дала народным майстрам менш працаёмкі ў параўнанні, скажам, з вышыўкай ці ткацтвам спосаб стварэння дэкаратыўных вырабаў, якія арганічна ўключыліся ў традыцыйнае аздабленне інтэр'ера.

Асабліва актывізавалася гэтае мастацтва ў пасляваенны час. Зруйнаваная, спаленая вайною вёска інтэнсіўна адраджалася, патрабуючы шмат адпаведных народным густам мастацкіх вырабаў, якіх і ў магазінах не хапала, і купіць не было за што. Вось і расквітнеў на гэтай хвалі сапраўдны промысел па роспісу насценных дываноў, якія цэлымі рулонамі прадавалі на рынках і нават па вёсках насілі. На кавалках цыраты спрактыкаванай, але халоднай рукой рамесніка маляваліся ядавіта-зялёныя кусты, тлустыя лебедзі, пышнацелыя прыгажуні, што манерна вылежваліся на беразе сіняга возера. Агулам (і справядліва) аднесеныя мастацтвазнаўцамі ў разрад базарнай безгустоўнай прадукцыі, гэтыя вырабы доўгі час заміналі па-сапраўднаму, аб'ектыўна ацаніць тыя праявы, якія засноўваліся на традыцыях і несправядліва ігнараваліся нават даследчыкамі нашай культуры. І толькі ў апошні час, калі мастацтва роспісу дываноў практычна заняпала, мы раптам спахапіліся і пачалі рупліва збіраць тое, што яшчэ ўцалела. Як аказалася, гэты від народнай мастацкай творчасці моцна засмечаны безгустоўнай рамесніцкай прадукцыяй, утрымлівае і глыбока традыцыйныя праявы, і нават такія «залацінкі», як творчасць сёння шырока вядомай Алены Кіш са Случчыны. Малявала і яна лебедзяў, аленяў, ільвоў, але як малявала! Нездарма сёння яе згадваюць поруч з імёнамі сусветна вядомых мастакоў наіўна - рэалістычнага напрамку.

Але творчасць Алены Кіш — з'ява унікальная, ярка індывідуальная і непаўторная. Між тым многія майстры-малявальшчыкі працавалі ў стылістыцы, якая ахоплівала цэлыя рэгіёны, засноўваючыся на традыцыях мясцовай народнай культуры. Найбольш характэрны рэгіён — заходняя Віцебшчына і суседнія раёны Міншчыны: Докшыцкі, Глыбоцкі, Пастаўскі, Міёрскі, Мядзельскі, Вілейскі. Мясцовыя маляваныя дываны вылучаюцца пэўным адзінствам і стылістыкай, у іх адчуваюцца прамыя або апасродкаваныя сувязі з іншымі відамі народнай творчасці. Таму гэтую на першым этапе самадзейную з'яву, якая з часам стала масавай і традыцыйнай, мы і залічваем сёння да народнага роспісу, размяжоўваючы з антымастацкай рамесніцкай прадукцыяй.

...Даўно ўжо кінулі майстры-малявальшчыкі свой занятак: і мода мяняецца, і прамысловых вырабаў стала больш, чым у пасляваенны час. Вось і застаўся Фёдар Сухавіла з Бабруйшчыны ці не адзіным на сёння майстрам, хто яшчэ не кідае гэты занятак.

— Ну і як, Фёдар Іванавіч, ці ёсць на вашыя вырабы попыт?

— Ёсць, — смяецца майстар. — Цяпер дык нават большы стаў. У магазінах жа дываны некуды папрападалі, то ізноў на мае работы заказы пачалі паступаць. Музеі, вядома, заказваюць, і так хтонебудзь спецыяльна прыязджае. Так што без занятку сядзець, відаць, не буду...

**Яўген САХУТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Фёдар МУХАВІЛА (уверсе) і дыван яго работы.**

**Фота аўтара.**



## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

### БЯДА

**Ступаю на пляц Перамогі**
**І бачу я тое ці сню!—**
**Фліртовая публіка ногі**
**Ля вечнага грэе агню.**

**На могілках плача жалоба.**
**Навокал прыціхлі крыжы.**
**А ўжо навастрыліся жлобы**
**На горы пажыцца чужым.**

**Ці іх заклікаць да маралі,**
**Што чарку нябожчыка п'юць!**
**Каб кветкі з магіл не пакралі,**
**Рыдлёўкамі кветкі сякуць.**

**Адкуль жа пайшла**
**гэта пошасць,**
**Не выпеч якую й агнём!**
**А гэта нядаўняя прошласць**
**Усё яшчэ ў храме з канём.**

**А гэта спасланая Богам**
**Людская жуда і бяда.**
**Ў яе анічога святога,**
**Акром заклінання: «Аддай!»**

**Аддай і пінжак, і кашулю...**
**Ды што гаварыць пра шмаццё!**
**Прыставяць і фінку, і кулю**
**І ўжо аддавай ім жыццё.**

**Каб вушы начальству**
**лагодзіць,**
**Прыдумаў жа нейкі сацір:**
**«Нясун» — замест звыклага**
**«злодзей»,**
**Заместа «бандыт» — «рэкецір».**

**Даўно перасталі здзіўляцца,**
**Ніякага ў тым адкрыцця,**
**Калі маладзенькая маці**
**Выносіць на сметнік дзіця.**

**Брат брату памерці пасобіў.**
**Сын выпусціў бацьку духі.**
**І ўжо нас кара'е Чарнобыль**
**За нашы зямныя грахі.**

**І ўжо нараджаюцца дзеці**
**Без пальцаў, з заечай губой,**
**І ўжо мы не зможам**
**прывеціць**
**І хлебам сваім, і вадой.**

**Хлеб горкі, вада не пітная.**
**Размякчаны косці ў звяроў.**
**І скрозь, у каго ні спытаеш,**
**То рак, то захворана кроў.**

**Па травах, па нас, па калоссі**
**Кіслотнаму ліўню хлістаць...**
**А можа, ужо пачалося**
**Другое прышэсце Хрыста!**

**Марыя ПАНКОВА**

### ВАРОНА БЕЛАЯ, ВАРОНА...

**— Варона белая, варона! —**
**Падсек мяне мой родны брат.**
**Гляджу у свет я задумёна.**
**Гляджу на агалелы сад.**

**Як рана ў сэрцы нажавая —**
**Пажухлы квет, апалы ліст.**
**Мо я не тое ўсё шукаю!**
**Услед—людзей ці ветру свіст!**

**Стаю я ў одуме і стыну:**
**Не тым жывіла зноў душу!**
**І на вятрах, нібы асіна,**
**Сабой праклятая, дрыжу...**

**Мечыслаў ШАХОВІЧ**

### САЖАЛКІ ЛЯ КРЫВІЧОЎ

**Сам Бог іх выплакаў, напэўна:**
**Такая чыстая вадзіца!**
**На іх — лілеі, як царэўны...**
**А можа, гэта толькі сніцца!..**

**Бо ў век атрутны і гвалтоўны**
**Такая рэдкасць гэта дзіва...**
**Стаю я, светлых думак поўны,**
**Такі узнёслы і шчаслівы!**

**Застыла вечнасць люстраная.**
**Над ёй — вярба, як маладзіца,**
**Такая родная, зямная.**
**У вечнасць гэтую глядзіцца...**

*СПАДЧЫНА*

# «І ТЧЭ, ЗАБЫЎШЫСЯ, РУКА...»

Верш Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі» — не проста плён паэтычнай фантазіі аўтара. Ён мае адпаведную гістарычную аснову.

На Беларусі калісьці вялікім попытам карысталіся паясы. З гэтай нагоды князь Радзівіл у першай палове XVIII стагоддзя заснаваў фабрыку паясоў, выпісаў некалькі персаў і турак у Слуцк. Спачатку яе ўзначальваў Ян Маджарскі, армянін родам са Стамбула.

На фабрыцы звычайна выраблялі каля 200 паясоў у год. А каштавалі яны ад 5 да 50 дукатаў.

Спачатку на паясах былі персідскія ўзоры. Потым сталі ўжывацца і мясцовыя элементы—валошкі, чырвоныя гваздзікі. А колеру паясы былі самага разнастайнага: чырвонага, блакітнага, зялёнага, «пад золата» і «срэбра».

Гэткія ж фабрыкі пачалі ўзнікаць і ў іншых гарадах Беларусі. Але са слуцкімі паясамі сапернічаць ніхто не мог. Вядомыя выпадкі імітацыі слуцкіх паясоў у Варшаве, Кракаве, Гданьску. «Плагіятам» спрабавалі займацца нават у Канстанцінопалі, Ліёне, аднак падробкі так і заставаліся падробкамі. Лепш за слуцкіх майстрых выткаць пояс не ўдавалася нікому.

Як сведчаць гістарычныя дакументы, фабрыка ў Слуцку праіснавала да 1844 года. Потым яна прыйшла ў заняпад і зачынілася. І толькі, напэўна, дзякуючы М. Багдановічу, мы ведаем, што былі калісьці знакамітыя слуцкія паясы, якія сваёй прыгажосцю здзіўлялі многіх.

**Мікола ЖУКОЎСКІ.**

## НАШЫ ЗАХАПЛЕННІ

# ХІРУРГ... З ПАЛІТРАЙ

ДОКТАР медыцынскіх навук, прафесар Сцяпан Юпатаў загадвае кафедрай факультэцкай хірургіі ў Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце. Навуковую і выкладчыцкую работу ён выдатна сумяшчае з практыкай. Пасля напружанага працоўнага дня, часта пасля шматгадзіннай работы ў аперацыйнай, бярэ ў рукі эцюднік і едзе на бераг Нёмана, Котры, да старадаўніх замкаў, якімі так багатая Гродзеншчына. Па натуры доктар Юпатаў — аптыміст. Такая ж аптымістычная і жыццесцвярджальная яго палітра. Мірскі замак, увасоблены многімі мастакамі ў жывапісных і графічных работах, набывае асаблівы змест і новае мастацкае гучанне на палатне Юпатава. Аўтару ўдалося стварыць не толькі свой вобраз старажытнага замка. Пад пэндзлем таленавітага мастака-аматара Мірскі замак загучаў гімнам усім выдатным збудаванням старажытнага дойлідства, гімнам людзям, што падарылі свету гэту прыгажосць.



Ён любіць працаваць сам-насам з прыродай. Сярод яго палотнаў многа пейзажаў, у кожным з якіх няцяжка ўгадаць той ці іншы куток роднага прынёманскага краю. Чалавек надзвычайнай працавітасці, ён са шчырай павагай ставіцца да працы хлебароба. І вось ужо нарадзілася карціна «Іржэўнік», затым «Жніво». У большасці работ, створаных аўтарам, колеравая гама чыстая, шматфарбная, радасная. «Раніца вясны» і «Лютаўскі вечар», «Перад навальніцай» і «Апошняе паляванне», «Восеньская дарога» і «Гродна», «Лютаўскае сонца» — кожная па-свойму цікавая. Надзіва лірычныя і кранальныя зімнія пейзажы. Сцяпан Іванавіч любіць музыку Грыга, Баха, Бетховена, Моцарта і Чайкоўскага, творы Дастаеўскага, Пушкіна, Блока, Чэхава, Драйзера, Заля і многіх іншых. З задавальненнем чытае вершы Янкі Купалы і Уладзіміра Караткевіча, любуецца работамі народных майстроў, з заміраннем слухае народныя напевы і стварае сваю «Зімнюю казку», якая хвалюе гледача. Ён паэт у душы і добры мастак наяве.

— Што для вас самае галоўнае ў жыцці і ў творчасці? — спыталася я аднойчы ў прафесара Юпатава.

— Мір ва ўсім свеце і дабрата ў людскіх сэрцах. Гэта гучыць банальна, але святая ісціна. Думаю, ніхто не стане абвяргаць: калі чалавецтва будзе дабрэйшым, то праблема захавання міру на планеце не будзе такой вострай, як сёння. Нас усіх непакоіць цяперашняе становішча на іншых кантынентах, міжнацыянальныя, экалагічныя і іншыя праблемы. А для вырашэння ж іх патрэбна, у першую чаргу, менавіта дабрыня. І будзе мірным сіняе неба, будуць выратаваны знікаючыя рэкі і азёры, захавана жыццё рэдкіх прадстаўнікоў жывёльнага свету, будзе чысцейшым паветра, здаравейшым клімат, а значыць будзе дужым, здаровым і сам чалавек. Цяпер скажу як урач. Многія хваробы людзі набываюць менавіта таму, што акрамя агульначалавечых праблем, іх трывожаць і асабістыя непрыемнасці. Я маю на ўвазе бюракратызм, хабарніцтва... Менавіта ў жывапісе я чэрпаю дабрыню, каб потым аддаваць яе сваім пацыентам. Сказаць, што марыў пра жывапіс з дзяцінства, будзе няправільна. Проста любіў маляваць, нібыта нядрэнна атрымлівалася. Ды і хірургам быць не марыў. Так жыццё склалася, што паступіў пасля вайны ў фельчарска-акушэрскую школу, потым была вячэрняя практыка ў раённай бальніцы. Дарэчы, перад гэтым паспеў асвоіць шавецкую справу і нават працаваў шаўцом і валёнкі памагаў бацьку валяць...

У канцы сорак чацвёртага С. Юпатава прызвалі ў армію, дзе ён быў сапёрам. Раненне атрымаў пры размініраванні ваеннага поля і ў 18 гадоў застаўся без нагі. Але іншыя зусім не вярталіся з фронта. Ён не мог не разумець гэтага, а таму лягчэй, значна лягчэй пераносіў уласны боль. Напэўна, сам перажыўшы фізічны боль, ён лепш разумее цяпер сваіх хворых, дорыць ім усю сваю чалавечую ўвагу, спачуванне, чуласць і дабрыню. Калі пачуе звычайнае: «Дзякуй доктар», яго захліствае пачуццё радасці. У такія мінуты доктару Юпатаву хочацца ўвесь шар зямны абняць. Толькі ў жывапісе, менавіта ў пейзажным жывапісе, ён можа выказаць такую радасць душы, свае трывогі і надзеі.

За больш чым 60-гадовае жыццё Сцяпан Іванавіч апублікаваў звыш 110 навуковых работ, унёс каля 30 рацыяналізатарскіх прапаноў, вярнуў здароўе, а часта жыццё тысячам людзей і стварыў амаль 100 цудоўных жывапісных палотнаў. Яго работы экспанаваліся ў нашай краіне і за мяжой. Кожная кампазіцыя, створаная мастаком у белым халаце, уводзіць гледача ў дзіўны свет паэзіі і фарбаў. У некаторых карцінах закладзена глыбокая філасофская думка. Найбольш удалае палатно гэтага цыкла «А жыццё працягваецца...» Аджываючы ствалы двух старых дрэў прыхінуліся адзін да аднаго... Некалі іх пышная зялёная крона радавала многіх. Вакол старых дрэў расце прыгожы маладняк, а ўнізе прарастае наступнае пакаленне. Жыццё працягваецца...

Доктару Юпатаву не патрэбна рэклама, тысячы людзей з удзячнасцю ўспамінаюць гэта імя. Аднак мастак Юпатаў — для многіх адкрыццё. Навет не ўсе яго калегі ведалі, які талент скрыты ў гэтым сціплым чалавеку. З непрыхаваным здзіўленнем і захапленнем разглядалі пейзажы свайго «вельмі строгага і патрабавальнага» выкладчыка студэнты медыцынскага інстытута, адкрываючы па-новаму для сябе Сцяпана Іванавіча. Экспазіцыя яго персанальнай выстаўкі прыцягнула столькі наведвальнікаў, што выставачная зала Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка - археалагічнага музея ледзь умяшчала ўсіх жадаючых. Пазнаёміўшыся з творчасцю выдатнага ўрача, хірурга «з залатымі рукамі і чулым сэрцам», удзячныя гледачы, сярод якіх было многа былых пацыентаў, пакідалі цёплыя і шчырыя пажаданні ў «Кнізе водгукаў». Аўтар жа лічыць, што многае яшчэ яму не ўдаецца ў жывапісе. Але ён чэрпае натхненне ў прыроды і зноў і зноў бярэцца за пэндзаль.

У кабінеце славутага доктара медыцынскіх навук я ўбачыла аднойчы карціну, дзе мастак адлюстраваў шырокую панараму Гродна з яго старажытнымі замкамі, касцёламі, тэатрам, хуткаплынным Нёманам. Толькі з акна на 7 паверсе, дзе размешчана кафедра, можна было ўсё гэта ўбачыць. Пасля аперацый, лекцый, розных кансультацый ён заставаўся на некалькі гадзін у кабінеце і маляваў свой новы твор...

— Убачыўшы такую прыгажосць, не змог утрымацца, каб не намаляваць.

Памаўчаўшы, Сцяпан Іванавіч дадаў з сумам: «На жаль, бяда Чарнобыля распасцерла крылы над усёй гэтай прыгажосцю»...

Сёння аўтара лірычных пейзажаў да болю трывожыць лёс людзей, што жывуць у зоне, заражанай радыенуклідамі, лёс закінутых вёсак, лёс яго радзімы. Ён жа — сын Беларусі! Хіба можа ён не зразумець боль, які прычыніў людзям Чарнобыль?!

Зімнія пейзажы Юпатава саграваюць, хвалююць, радуюць і адначасова трывожаць душу. Магчыма гэта настальгія па зімах яго дзяцінства? А магчыма гэта — сімвалічны вобраз нашага сённяшняга быцця?..

Валянціна ЯУСЕЕВА.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



З вялікім поспехам прайшла персанальная выстава мастака Алега Скавародкі ў рэспубліканскай мастацкай галерэі ў Мінску. Жывапісец з Віцебска прадставіў на суд гледачоў 60 палотнаў розных жанраў: партрэт, нацюрморт, пейзаж. Як сапраўдны майстар паўстае мастак у пейзажных кампазіцыях з роднымі беларускімі краявідамі. Сам аўтар нарадзіўся на Віцебшчыне— у маляўнічым кутку Лепельскага раёна. Мастацкую адукацыю атрымаў на мастацка - графічным факультэце Віцебскага педінстытута ў 70-х гадах. Зараз жыве і працуе ў старажытным Віцебску — горадзе, над якім і сёння лунае дух вядомых патрыярхаў сусветнага мастацтва: М. Шагала, К. Малевіча, В. Кандзінскага. У сваёй творчасці Алег Скавародка застаецца паслядоўнікам іх спадчыны, але малады мастак знайшоў сваю сцяжыну ў мастацтве і ўпэўнена крочыць па ёй.

Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.

НА ЗДЫМКАХ: работы А. СКАВАРОДКІ «Сакавік», «Сяброўкі», «Вясна ў віцебскіх лагчынах».





## АБ'ЯДНАЛІСЯ МАСТАКІ

Новыя эканамічныя ўмовы прымусілі полацкіх мастакоў аб'яднацца ў малое прадпрыемства «Рыса». Няпроста было распачынаць сваю справу. Акрамя творчых, трэба было праявіць і арганізацыйныя здольнасці. «Рысе» крыху болей за год, але ўжо шмат зроблена. У Музеі беларускага кнігадрукавання адчынены мастацкі салон. Тут можна набыць карціны, мастацкія вырабы не толькі мясцовых творцаў, а і майстроў з Віцебска, Мінска. Штомесяц у гарадской выставачнай зале суседняга Наваполацка «Рыса» ладзіць выстаўкі. Напрыканцы лютага свае работы выставілі два мастакі: Аляксандр Канавалаў ды Сяргей Цімохаў. У экспазіцыі — жывапіс. Упершыню творы гэтых мастакоў прадстаўлены досыць шырока.

## ПРАЦЯГ ТРАДЫЦЫІ

Святы маладой паэзіі ў Ляўках, штогадовыя семінары маладых літаратараў вобласці ў розных яе гарадах сталі на Віцебшчыне традыцыйнымі. Нядаўна ж у цэнтры эстэтычнага выхавання абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі сабраліся на свой конкурс юныя паэты і кампазітары вобласці. Сярод 103 дзяўчынак і хлопчыкаў —70 юных літаратараў, і што асабліва ўсцешвае — большасць з іх спрабуюць свае творчыя сілы на роднай мове.

Лепшыя вершы ўдзельнікаў конкурсу мае намер надрукаваць газета «Віцебскі рабочы» на літаратурнай старонцы «Зарніца».

## МУЗЕЙ НА ВУЛІЦУ?

Культурнае жыццё Жлобіна адзначана прыкметнай падзеяй — адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў гарадскі гісторыка-краязнаўчы музей. Дзякуючы намаганням яго супрацоўнікаў, тут можна азнаёміцца са шматлікімі дакументамі, фотаматэрыяламі, якія датычацца гісторыі Жлобіншчыны часоў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, мірнага будаўніцтва, паглядзець на прадстаўленыя экспанаты сялянскага побыту XIX — пачатку XX стагоддзяў, даўнія праваслаўныя іконы. Адкрыццё музея стала сапраўдным падарункам для гараджан, якія збіраюцца адзначыць сёлета 500-гадовы юбілей Жлобіна.

У той жа час гэтая, здавалася б, прыемная падзея абвастрыла даволі набалелую праблему. Справа ў тым, што на будынак, у якім размясціліся выставачныя залы музея, прэтэндуе мясцовая абшчына рымска-католікаў. Калісьці тут быў касцёл, які ў 30-х гадах закрылі. Сам будынак у асноўным захаваўся да нашых дзён, на яго рэканструкцыю гарвыканком у апошнія гады выдаткаваў значныя сродкі — у выніку чаго з'явіўся музей. Тым не менш жлобінскія католікі лічаць свае патрабаванні справядлівымі і законнымі. Яны хочуць вярнуць сваю гвалтоўна канфіскаваную савецкай уладай маёмасць.

Пакуль вырашэнне канфлікту зайшло ў тупік. Менавіта па гэтай прычыне вернікі плануюць у бліжэйшы час перайсці ад «папяровай вайны» да практычнай дзейнасці — выставіць перад музеем пікеты. Людзі чакаюць цёплага надвор'я, каб размясціцца там, як кажуць, грунтоўна.

# крынічка

Яўген КРАМКО

## КАТОК-ЧЫСЦЁХА

**(АБРАЗОК)**

Шэрае покрыва распускае вечар, а мы з унукам, добра павандраваўшы над Нёманам, сядзім у хаце, адпачываем і пазіраем у акно. Цёмныя хмары плывуць над будынкамі, вецер гуляе над стрэхамі, явар нашэптвае сум.

— Дзядуля, а дзядуля! Паглядзі, — кажа ўнук і паказвае на хлеў у двары.

Бачу: на лаўку, што пад сцяною хлява, скокнуў чыйсьці каток беленькі-бялюсенькі, толькі кончыкі вушэй і кончыкі пярэдніх лапак чорненькія. Галоўка прыгожая, вочкі шустрыя, шэрстка гладкая.

Коцік сеў, уважліва паглядзеў ва ўсе бакі. Упэўніўшыся, што для яго небяспекі няма, пачаў мыцца: намочыць язычком лапку, паводзіць ёю па шчацэ, правядзе за вухам, патрэ нос і губкі. І так многа разоў — то язычком па лапцы, то лапкаю па шчочцы. Потым мачыў другую лапку і таксама старанна мыў другі бок галавы.

Пасля пасядзеў некалькі хвілін, відаць, адпачыў ад стараннае працы, паглядзеў навокал, паслухаў, зноў намачыў лапку, памыў шыю, грудзінку, правёў лапкаю па спіне.

Пасля патупаў на месцы, паслухаў і, не спяшаючыся, лёг, звярнуўся ў клубочак, галоўку прыхінуў лапкаю, супакоіўся і, відаць, заснуў.

На вуліцы ўжо нічагусенькі не было відаць. Толькі вецер ціхутка прабягаў па стрэхах, а з-за адплываючых хмар час ад часу месяц пазіраў на хлеў, дзе на лаўцы ляжаў беленькі клубочак.

Мы маўчым, кожны думае аб убачаным.

— А чаму ён тут улёгся? — парушыў маўчанне ўнук.

— Не інакш, яго прагналі з дому за нейкую шкоду, — адказваю.

— А ці ўсе каты мыюцца перад сном? — зноў пытае.

— Сапраўды, прырода надзяліла катоў звычкаю старанна мыцца перад сном. Бачыш, нават на выгнанні не парушае свае звычкі, — адказваю яму.



Якая смачная каша!

Фота М. МІНКОВІЧА.



Характары.

Фота А. НІКАЛАЕВА.

## ЛІЧЫЛКІ

Каля шпакоўні-хаткі
лятаюць птушаняткі.
Адно, два, тры, чатыры.
Ляцець рыхтуюцца ў вырай.

У лесе, дзе дубкі
стаяць баравікі.
Адзін, два тры, чатыры,
пяць.
У кошык трэба іх узяць.

Ішла кошка па раялі,
Наступіла на педалі
І запела: — До, рэ, мі, фа,
соль, ля, сі,
Што украла — прынясі.
— Я ўкрала каўбасу,
Заўтра рана прынясу.

Кацілася яблычка па агароду
І упала прама ў воду.
Бульк!

Із падпечка
Тры дашчэчкі!
Хлоп!

Васіль ЖУКОВІЧ

## ПАЦЕШКІ

Ты, Вадзім,
не глядзі,
як ляцяць вароны,
а вады набяры
ды палі вазоны.

— Цвіце хмель.
— Гудзе чмель.
— Дзе!
— У цябе на барадзе.

## ДРАЖНІЛКІ

Сяргей-верабей
На кані катаўся,
Рукі, ногі паламаў,
Без штаноў застаўся.

Франак — абаранак.

Гром грыміць, зямля
трасецца,
Люда з торбачкай нясецца.

Сівы, па чом слівы!
Як па рублю — дык куплю,
Як па пяць — дык хай яны
згараць.

Францішак СІЎКО

## ЯК ЛІТАРЫ ПРЫМУСІЛІ КОЛЮ АЛФАВІТ ВУЧЫЦЬ

**КАЗКА**

У адной вёсцы жылі блізняты, брат і сястра. Дзяўчынку звалі Валя, хлопчыка — Коля. Абое хадзілі ў другі клас, сядзелі ўпобачкі за партаю, разам рабілі ўрокі.

Неяк задала настаўніца дзецям хатняе заданне: вывучыць алфавіт.

Вось сядзяць брат і сястра, вучаць. Раптам Коля кажа:

— Што за дурнота гэты алфавіт? Навошта ён мне?

— Як гэта навошта? — пярэчыць Валя. — Ты ж чуў, што Алена Іванаўна казала: без алфавіта не будзе на свеце ніякага ладу. Усё дагары нагамі перакуліцца. Алфавіт патрэбны.

— Табе патрэбны, ты і вучы, — кажа Коля. — А я лепш на вуліцу пайду, з сябрукамі ў хованкі пагуляю.

Ды як шпурне кніжку ў кут, як бразне дзвярыма! Кінулася Валя даганяць брата. Але хіба яго дагоніш? Вярнулася дзяўчынка ў пакой, зноў разгарнула падручнік.

А Колева кніжка ляжыць сумная ў куце, ледзь не плача. Абгортка на ёй парвалася, і бок баліць.

І літарам прыкра: пакрыўдзіў іх Коля. Сабраліся яны ў гурт і давай раіцца, як нявыхаванага гультая пакараць. Доўга гаманілі-спрачаліся, але прыдумалі...

...Вось сядзяць вучні ў класе, чакаюць настаўніцу. Нарэшце дзверы адчыняюцца, уваходзіць Алена Іванаўна. Павіталася і кажа:

— Спачатку, дзеці, праверым хатняе заданне. А зробім гэта так: будзеце ўставаць і называць кожны па алфавіту сваё імя. Ну, хто першы?

— Я! — падняла руку Алачка. — Маё імя Ала.

За ёй Бронік устаў, потым Галінка. Неўзабаве дайшла чарга да Колі. А ён жа алфавіт не вучыў! Сядзіць і не разумее, чаму ўсе на яго пазіраюць. Нарэшце здагадаўся, устаў.

— Ну, што трэба сказаць? — пытаецца Алена Іванаўна.

— Няме взаць ляко.

Дзеці засмяяліся. А Коля зусім разгубіўся. Што за ліха: вымаўляеш адны гукі, а атрымліваюцца зусім іншыя.

— Што ён сказаў? — пацiснула плячыма настаўніца. — Я нічога не зразумела.

— Ён сказаў, што яго звець Коля, — прыйшла брату на дапамогу Валя. — Ён учора не хацеў вучыць алфавіт, вось літары яму за гэта і адпомсцілі — пераблыталіся. Ну што, патрэбен табе алфавіт ці не?

— Патрэбен, — ціха адказаў хлопчык і сеў на месца. — Я яго абавязкова-абавязкова да наступнага ўрока вывучу.

## ЗАГАДКІ

Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

Я прыгожы ды касы,
Не стары, а ёсць вусы.
Хвосцік мой маленькі, з пальчык,
Называюць мяне

(Зайчык)

Я хаджу, нібыта ў тапках,
Кіпцюркі ў мяне на лапках,
Я без мыла, без вады
Мыю сам сябе заўжды.

(Кот)

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 641.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12